


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

5 красавіка 2002 года
№ 14 (363)
Выходзіць па пятніцах




## Навіны рэгіёна

### Віленчукі ў Маладзечне

МАЛАДЗЕЧНА. 29 сакавіка горад наведала дэлегацыя Віленскага павета – у Літве паветы аналагічныя беларускім абласцям. Віленскі павет аб'ядноўвае 6 раёнаў.
Літоўцы прыязджалі па ініцыятыве Мінскага аблвыканкома. У складзе дэлегацыі было 7 чалавек: начальнік павета, кіраўнікі некалькіх раёнаў, старшыня Літоўскай гандлёва-прамысловай палаты, прадпрымальнікі. Ім паказалі адныя з лепшых прадпрыемстваў горада – "Маладзечнамэблю" і "Мінскі мэблевы цэнтр".

**Юрый КАРПІЦКІ.**

### Лепшы выпускнік

МЯДЗЕЛ. Тут адбыўся конкурс «Выпускнік-2002». Удзельнічалі адзінаццацікласнікі з сямі школ. Трэба было ім прадставіць сябе, прадэманстраваць веды, паказаць, як яны ўяўляюць школу XXI стагоддзя. Пераможцам стаў **Аляксей Жоўнер** з Мядзельскай СШ №1. Быў ён адзіным хлопцам сярод канкурсантаў. За першае месца атрымаў Аляксей добры фотаапарат. Узнагароджаныя прызамі і астатнія ўдзельнікі.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

### Вучнёўская алея

ВАЛОЖЫН. 2 красавіка на тэрыторыі школы-інтэрната вучні першых і 9-х класаў пасадзілі 26 бярозак і 10 дубкоў. Разам з гэтай алеяй з'явіўся і фруктовы сад: 20 яблынь і 10 слівавых дрэў. Саджанцы набылі за кошт Валожынскай райаграпрамтэхнікі.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

### Хлебазавод абнаўляе асартымент

СМАРГОНЬ. 15 новых відаў хлебабулачных і 20 відаў кандытарскіх вырабаў асвоілі на хлебазаводзе за першы квартал. Цяпер пераходзяць на выпечку заварных хлябоў, павялічылі выпуск дыетычнай прадукцыі.

**Ала СТРАШЫНСКАЯ.**

### Ад сухой травы гараць пабудовы

ВІЛЕЙКА. 29 сакавіка на ўскраіне вёскі Іванцавічы згарэў дачны вагончык. На полі ля вёскі нехта запаліў сухую траву. Агонь падабраўся да плоту і перакінуўся на вагончык. Жыхары выклікалі пажарных. Вагончык не выратавалі. 19 сакавіка таксама ад сухой травы згарэла пуня ў вёсцы Ручаўя.

**Аддзел інфармацыі «РГ».**

### Памяці Генадзя Карпенкі

МАЛАДЗЕЧНА. 6 красавіка спаўняецца тры гады з дня, як раптоўна памер Генадзь Карпенка, вучоны, палітык, а для маладзечанцаў – кіраўнік завода парашковай металургіі, кіраўнік выканкома гарадскога Савета, іх дэпутат у Вярхоўны Савет. Заўтра ў Мінску да магілы Генадзя Карпенкі прыйдуць знаёмыя і блізкія, каб ускласці кветкі ў знак памяці аб гэтым чалавеку. Як паведамляе прэс-служба аб'яднанай грамадзянскай партыі, 7 красавіка з 11-00 да 12-00 у Мінску на Кастрычніцкай плошчы, а таксама ў Маладзечне на Цэнтральнай плошчы неабыякавыя людзі злучацца ў ланцуг памяці.


Фота IREX/ProMedia.
**Генадзь Карпенка ў час работы ў Вярхоўным Савеце.**

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

### Надвор'е на выхадныя

Субота, 6 красавіка

Мінск

-5°С (уначы)
1°С (удзень)

Вільня

-6°С (уначы)
1°С (удзень)

Нядзеля, 7 красавіка

Мінск

-2°С (уначы)
7°С (удзень)

Вільня

-6°С (уначы)
4°С (удзень)

# Дзеці харчуюцца ў доўг

**МАЛАДЗЕЧНА. Харчаваннем у дзіцячых садках займаецца гандлёва-унітарнае прадпрыемства (ГУП) "Дробны опт". А ў школах – камбінат школьнага харчавання.**

Гэта пасрэдніцкія арганізацыі, якія купляюць прадукты на розных прадпрыемствах. Потым прадаюць аддзелу адукацыі. Жывуць "Дробны опт" і камбінат школьнага харчавання за кошт гандлёвай надбаўкі на прадукты ў 10% і 30% адпаведна.

#### «Дробны опт»

– Дырэктар **Людміла Гілевіч**:
– Для рацыянальнага харчавання дзіцяці гарвыканком павінен пералічваць на наш рахунак 3 мільёны рублёў штодзень. На самой жа справе гэтага няма.

Сітуацыя з харчаваннем у гарадскім аддзеле адукацыі не такая і дрэнная – прадукты ад нас дзеці заўсёды атрымліваюць. Нам цяжэй выжываць. Было б добра, каб бацькоўская плата за садок адразу паступала да нас, бо гэтыя грошы часцяком асядаюць у аддзеле адукацыі і да нас не даходзяць своечасова.

На канец 2001 года аддзел адукацыі павінен выплаціць "Дробнаму опту" 15 мільёнаў рублёў + 10 мільёнаў рублёў за тры месяцы гэтага года.

#### Камбінат школьнага харчавання

Дырэктар **Ганна Зянько**:
– «Выязджаем» на блінах, аладках ды сырніках. Уявіце, гарадскі аддзел адукацыя павінен нам выплаціць амаль 64 мільёны рублёў. А наш доўг перад усімі пастаўшчыкамі складае больш за 98 мільёнаў. Спадзяюся, што аддзел адукацыі разлічыцца з намі падчас летніх канікул. Інакш невядома, што будзе далей.


Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.
**4 красавіка, сталовая маладзечанскай СШ №6. У дадатак да сняданка вучні могуць купіць сабе пячэнне ці булачку.**

#### Як трапляюць прадукты на стол маладзечанскім дзецям




#### Гарадскі аддзел адукацыі

Тэхнолаг па дзіцячым харчаванні **Алена Слабыш**:
– З рацыёна выключылі дарагія прадукты і імпартныя (тушонка, джэмы, крэмы, згушчонка і інш.). Карыстаемся прадуктамі айчыннай вытворчасці. Прадуктамі нас забяспечвае гармалзавод, хлебазавод, мясакамбінат, камбінат хлебапрадуктаў праз "Дробны опт". Прадукцыя паступае і з Мінска, Гарадзеі, Алёхнавіч, Смалявічаў. Пагашаем запазычанасці па меры паступлення грошай. Справы з "Дробным оптам" не такія і дрэнныя, крыху горш з камбінатам школьнага харчавання. Але жадаць лепшага цяпер немагчыма.

Дзеля эканоміі гарадскі аддзел адукацыі ўжо на працягу 4-х год нарыхтоўвае гародніну напрамую з калгасаў (імя Янкі Купалы, што ў Радашкавічах, "Маркава", "Светлы шлях" у Заскавічах). Часцей за ўсё, яна захоўваецца ў садках. Сёлета завезена 50 тон бульбы (патрэбна 101 т), 11 тон капусты, 1 тона морквы, 8 тон буракоў. Усяго 20 тон гародніны замест 127 неабходных!

Але ўсё ж такі Алена Слабыш запэўнівае бацькоў, што дзеці атрымліваюць усё неабходнае і нават больш за тое.

**Ірына РАБУШКА.**

### Што было на абед у СШ №1 райцэнтраў рэгіёна 2 красавіка

**Маладзечанская СШ №1**
Суп малочны з грэцкімі крупамі ........ 250 грамаў
Каша малочная прасяная з маслам .. 150/10 г
Булка "Духмяная" ......... 75 г
Чай з цукрам ............... 200 г
**Усяго ..................... 352 рублі**

**Астравецкая СШ №1**
Суп гарохавы .............. 250 г
Пюрэ бульбянае .......... 100 г
Гуляш з падліўкай ..... 25/38 г
Салата з буракоў ........... 50 г
Хлеб ............................ 50 г
Батон ........................... 25 г
Чай ............................. 200 г
**Усяго ..................... 372 рублі**

**Смаргонская СШ №1**
Салата з буракоў з алеем 25 г
Суп малочны з рысавамі крупамі ........................ 250 г
Шніцэль натуральны .... 30 г
Пюрэ бульбянае .......... 100 г
Кававы напітак распушчальны на малацэ .............. 200 г
Хлеб ............................ 30 г
**Усяго .................... 460 рублёў**

**Мядзельская СШ №1**
Суп малочны рысавы .. 250 г
Сырнікі са смятанай і цукрам ............ 100/30/5 г
Хлеб пшанічны ............. 25 г
Чай з цукрам ............... 200 г
**Усяго .................... 406 рублёў**

**Вілейская СШ №1**
Бутэрброд з селядцом 20/30 г
Каша ячная ................. 100 г
Кілбаса вараная ............ 75 г
Чай з цукрам ............... 200 г
Хлеб ............................. 30 г
**Усяго .................... 785 рублёў**

**Валожынская СШ №1**
Ячны малочны суп ...... 250 г
Запяканка тварожная з варэннем ................ 150/22 г
Какава з малаком ......... 150 г
Сыр кілбасны ................ 15 г
**Усяго ..................... 504 рублі**

**Ашмянская СШ №1**
Боршч са смятанай ... 250/5 г
Пельмені з маслам .. 150/10 г
Булачка з кілбасой ...... 75/15
Кампот з сухафруктаў . 200 г
**Усяго .................... 400 рублёў**

## Тры святы ў адзін дзень

**ВІЛЕЙКА. 27 сакавіка ў Доме культуры адбыўся тэатральны капуснік. Святкавалі Міжнародны дзень тэатра і 50-годдзе Вілейскага народнага тэатра.**

Артысты паказалі ўрыўкі з розных спектакляў, пантамімы, мастацкія нумары. За ігрой сучаснай трупы назіралі першыя актрысы тэатра **Паліна Грыбоўская, Ала Зайцава, Зінаіда Сямёнава**.

Адначылі яшчэ адзін юбілей – 15-годдзе творчай дзейнасці былога рэжысёра тэатра **Віктара Роўды**, цяпер – мастака-афарміцеля.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**

## У Будславе наводзяць прыгажосць

**МЯДЗЕЛ. Пачаліся работы па добраўпарадкаванні тэрыторыі ля будслаўскага касцёла.**

Блізу яго зносяць старыя пабудовы, раўняюць тэрыторыю. Потым на ёй пасадзяць траўку. Гэтак пачалі рыхтавацца не толькі да ліпеньскага фэсту. але ўжо да юбілейнага года – у 2004 годзе будзе пяць стагоддзяў з таго моманту, як бернардынцам падаравалі зямлю, на якой цяпер месціца Будслаў.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Кацярына-краса, дзявочая каса

**МАЛАДЗЕЧНА. 2 красавіка ў агульнаадукацыйнай школе мастацтваў прайшоў конкурс "Міс Каса-2002". Арганізатар – Цэнтр пазашкольнай работы (ЦПР). 10 дзяўчынак спаборнічалі ў двух узроставых групах. Першая група – ад 7 да 11 год, другая – ад 12 да 16 год.**

Даўжыня кос вагалася ў межах 72-113 сантыметраў. Доўгавалосыя прыгажуні мераліся сваімі ведамі, знаходлівасцю, талентам у 6 турах.

Першы – "Візітка", дзе кожная з канкурсантак спрабавала выявіць сябе ў лепшым святле.

**Галіна Кашэўская**, "Міс Непаўторнасць" (СШ №7):

– Візітка – адзінае, з чым мне дапамаглі ў маёй школе. У конкурсе такога ўзроўню я ўдзельнічала ўпершыню. На ўсе ўбранні бацькі выклалі з кішэні каля 40 тысяч рублёў.

Потым быў парад прычосак. Неверагодныя дзівосы былі ўтвораны з валасоў. Але пераможца ў малодшай узроставай групе, уладальніца самай доўгай касы і ганаровага тытулу "Варвара-краса..." усяго конкурсу – **Кацярына Занкевіч** (яна вучыцца ў СШ №12, а на конкурсе прадстаўляла ЦПР) – зачаравала ўсіх.

Мама Кацярыны **Вольга Занкевіч**:

– Задаволеная, што ў нас быў уласны спонсар. Сукенка, якая каштуе 60 тысяч рублёў, была для нас сапраўдным падарункам.

Далей дзяўчынкі паказвалі свае музычныя здольнасці.



Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

**Трэцякласніца СШ №3 Віялета Касцюкова атрымала на гарадскім конкурсе "Міс Каса-2002" тытул "Міс Натхненне".**

Яны спявалі прыпеўкі. Праўда, якое яны маюць дачыненне да кос, невядома.

Падчас чацвертага тура дзяўчынкі падарожнічалі па краіне этыкету.

У рэшце рэшт, канкурсанткі распусцілі свае косы і паказаліся на ўсёй красе.

Апошнім турам быў "Танец маёй душы". Вось праўда, што "чужая душа – цёмны лес". Тут і котачка-паскакуха, і цыганка, і народная танцорка і лацінаамерыканка.

**Дыяна Мацулевіч**, пераможца ў старэйшай узроставай групе (СШ №1):

– Займаюся танцам даўно, таму і атрымалася прыгожа. Наогул, я ўжо тытулаваная асоба, паспяхова ўдзельнічала ў многіх конкурсах. Гэта вельмі цікава, толькі грошай шмат патрабуе. На сённяшні конкурс мая сям'я выклала дзесьці 45 долараў.

Пераможцы атрымалі пуцёўкі ў дзіцячы летнік "Зубраня" і іншыя падарункі. Заахвочвальныя прызы і розныя тытулы атрымалі усе ўдзельніцы конкурсу.

**Ірына РАБУШКА.**

## Маладзечанская мода

**МАЛАДЗЕЧНА. 29 сакавіка ў ДК чыгуначнікаў прайшоў чацверты гарадскі конкурс-паказ мадэляў.**

Загучала музыка, як на сапраўдным паказе мод, і пачалі адна за адной выходзіць прыгожыя дзяўчаты. Былі апранутыя хто ў начную кашулю, хто ў скураныя штаны, хто ў кароценькія кофтачку або спадніцу, хто босы, а хто і ў ботах.

Асабліва вылучаліся хлопцы, якія дэманстравалі мадэлі СП "МігЛТД". Яны выйшлі такія дужыя. Апранутыя ў курткі, камбінезоны, рукавіцы, з чамаданамі. І так хацелася, каб адзення на іх было менш. Але распрануць іх можна было, на жаль, толькі вачыма.

Гран-пры "Залатыя нажніцы" дастаўся ААТ "Фабрыка Бярозка".

15 калекцый з'явіліся пераможцамі ў пяці намінацыях: "Камфорт", "Офіс", "Дынаміка юнацтва", "Асобы выпадак", "Авангард".

**Ірына РАБУШКА.**

## Інтэрнет для жаночых арганізацый

**МАЛАДЗЕЧНА. На мінулым тыдні ў Інтэрнет-цэнтры, што ў памяшканні бібліятэкі імя М. Багдановіча, прайшоў семінар "Інтэрнет-рэсурсы ў дапамогу арганізатарам сацыяльнай работы з дзецьмі ў жаночых арганізацыях". У рабоце семінара ўзялі ўдзел прадстаўнікі арганізацый розных накірункаў. Агульнае ў іх – работа з дзецьмі.**

Старшы выкладчык Брэсцкага дзяржаўнага універсітэта імя А. Пушкіна **Тамара Сцяпанава** – кіраўнік праекта "Жанчыны – дзецям" – знаёміла жанчын-удзельніц з інтэрнет-рэсурсамі, якія можна скарыстоўваць у сацыяльнай рабоце з дзецьмі, расказвала пра формы гэтай работы ў жаночых аб'яднаннях, дзялілася сваім досведам у гэтай сферы.

**Наталля ХАРЫТОНАВА.**

## Веснавы праменьчык-2002

**МАЛАДЗЕЧНА. 29 сакавіка ў музычнай школе адбыўся занальны конкурс ансамбляў "Веснавы праменьчык-2002". Удзельнічала 27 калектываў з Маладзечанскага і Валожынскага раёнаў.**

Конкурс цягнуўся 5 гадзін, за якія ўдзельнікі выканалі па два творы. Адзін з іх спевакі павінны былі выканаць на беларускай мове, а інструментальныя ансамблі гралі мелодыі беларускіх кампазітараў.

Перад узнагароджаннем выступіла дырэктар дзіцячай школы Маладзечна **Бэці Аўдзеенка**. Яна зазначыла, што заўсёды перамагае музыка і таму не трэба сумаваць, калі не пашанцавала ў гэтым годзе.

– На жаль, мы не можам сёння ўзнагародзіць падарункамі нашых гасцей. Нас ніхто не фінансуе, і таму ўсё робім за грошы школы. Быў час, калі нічога, акрамя грамат, не давалі. Трэба праводзіць вялікую работу з аддзеламі культуры, а іх гэта не цікавіць. Таму астатнія атрымаюць падарункі ад мясцовых школ, – сказала яна.

Але ж дзеці чакалі вынікаў конкурсу і радаваліся нават ганаровай грамаце.

Прызёраў узнагародзілі граматамі, а выхаванцы МДМШ атрымалі па плітцы шакаладу і ручцы.

– Галоўнае, што сустрэліся. Нас тут заўсёды добра прымаюць. Гэты конкурс і добрая арганізацыя дапамагаюць дзецям зразумець сапраўдную музыку, яе высокі ўзровень. Тым больш, што цяпер канікулы, ёсць магчымасць паглядзець Маладзечна, – падзяліліся ўражаннямі педагогі валожынскай музычнай школы **Алена Лаўрыновіч** і **Ірына Кетрыс**.

8-гадовая **Юля Машніцкая** з Алёхнавіч выступала ўпершыню, і журы адзначыла яе ганаровай граматай.

– Мне спадабалася, як спявалі дзеці. Я вучуся ў музычнай школе 2 гады і мару трапіць на тэлебачанне, – расказала юная выканаўца песні "Агонь Чарнобыля".

У 2003 годзе веснавыя праменьчыкі будуць дарыць піяністы, струнна-смычковыя і фартэпіянныя ансамблі.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**

## Брат і сястра Сапеі – спартсмен і настаўніца

**ВІЛЕЙКА. Чэмпіён СССР у бегу на 100 метраў Уладзіслаў Сапея і яго родная сястра Аліна Бахціна ў дзяцінстве займаліся бегам, толькі ён стаў чэмпіёнам, а яна – настаўніцай. Па жыцці яны ішлі рознымі дарогамі, але на пенсіі сышліся на адной: увесь вольны час праводзяць на дачах. Яшчэ іх дзед Васіль вучыў, як правільна дрэвы абразаць і прышчэпкі рабіць, каб плады горшыя не сталі. У абаіх добрыя сады, але з тым садам, што высеклі, калі на месцы роднай хаты будавалі бальніцу, не параўнаць.**

Аліна ведае, што па чацвяргах можна патэлефанаваць брату ў Маскву, дзе ён чакае вестачак з радзімы. Чарговы раз яны абяцаюць наведаць адзін аднаго, але зноў прыходзіць пятніца з яе звычайным жыццём, і паездкі адкладаюцца.

Расказвае Аліна Бахціна:

– Раней больш да Улада ездзіла, цяпер білеты вельмі дарагія. Ды ён пасля спаборніцтваў дадому спяшаўся. Браў з сабой лепшага сябра з Літвы. Гаварыў, што, як пабывае ў Вілейцы, адчувае прыліў энергіі. Як толькі ўвайшоў у склад савецкай зборнай (1968 г.), паехаў у Маскву і пачаў вандраваць. Амаль усю Еўропу аб'ездзіў. Заўсёды падарункі прывозіў, вось і хустка з Італіі засталася. Толькі бацька не дачакаўся перамог сына.

Бацька Уладзіслава, таксама **Уладзіслаў**, быў польскім афіцэрам. Падчас сталінскіх рэпрэсій яго вывезлі ў Сібір, дзе ён і памер. У 1966 годзе быў рэабілітаваны. Але ж сям'я ніколі не атрымлівала пісьмаў і па сённяшні час не ведае, дзе ён пахаваны. У гэтым жа годзе памерла і маці **Вера**. Брата пачала выхоўваць Аліна.

– У дзяцінстве мы ўсе займаліся спортам. Гулялі і ў парках, на валейбольных пляцоўках. Але ж Улад трэніраваўся самастойна. У школе дрэнна вучыўся, напэўна, ведаў, што чэмпіёнам стане. Я таксама бегала, але горш: 100 метраў – 13,2, 12,9. Аднойчы прыехала з Ленінабада, дзе вучылася, дадому, і мне прапанавалі паўдзельнічаць у спаборніцтвах сярод калгасаў. Але маці захварэла, таму і не паехала. Улад тады першае месца ўзяў. Паступова я ўвогуле ад спорту адышла, – успамінае яна.

Яшчэ Уладзіслаў Сапея прыгожа выразае па дрэве і разы два на год ходзіць на паляванне. А вось Аліне перадаўся досвед продкаў, якія займаліся знахарствам. Дзед лячыў спалохі і заіканні, а бабуля **Юлія** – вывіхі і радыкуліты. Унучка таксама цікавіцца містыкай.

– Сур'ёзна я знахарствам не займаюся, толькі калі знаёмыя просяць. Вось адной настаўніцы рожу загаварыла. Другая прыйшла і гаворыць, што ў мужа ўвесь твар чырвоны, нават і не ведаюць, што рабіць. Першы раз загаварыла, толькі вушы засталіся чырвоныя, другі – усё прайшло. Ён мне так і казаў: "Я адчуваў, што ў адно вуха ўвайшло, а ў другое выйшла", – смяецца Аліна Сапея.



Фота Вольгі ПІЛІПЕНКІ.

**Аліна Бахціна (у дзявоцтве Сапея)**

**Нарадзілася 11 лістапада 1940 годзе ў Вілейцы. Тут жа скончыла сярэднюю школу. У 1966 годзе скончыла Ленінабадскі педагагічны інстытут імя Кірава. 37 год працавала настаўніцай хіміі. Сёння выкладае ў Куранецкай СШ. Ёсць муж Мікалай, сын Міхаіл і ўнук Міша.**

Вясёлая, жыццярадасная жанчына марыць, каб у родных было моцнае здароўе, і хоча пражыць да 120 год.

– Рана мне яшчэ ў пенсіянеры запісвацца. Вось і мой муж **Мікалай** маладзейшы за мяне. Разам слухаем сучасную музыку, нават і цяжкі рок падабаецца, - гаворыць яна.

Восенню, пасля ўборкі ўраджаю, Аліна Бахціна з мужам плануюць з'ездзіць да Уладзіслава Сапеі ў Маскву. Ужо па ўнучцы і пляменніцы засумавалі, ды і чарніц з грыбамі трэба адвезці, бо для іх гэта – далікатэсы.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**

**Уладзіслаў Сапея – чэмпіён СССР на дыстанцыі 100 метраў (1968 год, Ленінград). Нарадзіўся 11 чэрвеня 1943 года ў Вілейцы. Скончыў СШ №2 (сёння ў гэтым будынку тэхнікум бізнесу і права). Потым паступіў у Гомельскі педагагічны інстытут на фізкультурнае аддзяленне, але з першага курса забралі ў армію. Бегам займаўся з дзяцінства.**

**Вялікія перамогі:**

**чэрвень 1968 г. – устанавіў сусветны рэкорд на летнім Кубку ў Рызе**

**ліпень 1968 г. – рэкорд СССР (100 метраў за 10,0) на Міжнародных спаборніцтвах памяці братоў Знаменскіх у Ленінградзе**

**кастрычнік 1968 г. – 2-е месца ў забегу 4х100 метраў на XIX Алімпійскіх гульнях у Мехіка (Мексіка)**

**верасень 1969 г. – 2-е месца ў забегу 4х100 метраў на летнім IX чэмпіянаце Еўропы па лёгкай атлетыцы ў Афінах (Грэцыя)**

**Сёння жыве ў Маскве разам з дачкой Вольгай і ўнучкай Марынай.**

## Малая сакавіца

**МАЛАДЗЕЧНА. З 8 па 19 красавіка пройдзе першы гарадскі фестываль дзіцячых драматычных калектываў "Малая сакавіца-2002".**

Фестываль арганізоўвае Цэнтр пазашкольнай работы пры дапамозе Мінскага абласнога драматычнага тэатра. Усяго будзе 10 конкурсных спектакляў. Пераможцы атрымаюць дыпломы фестывалю і каштоўныя падарункі.

### Графік прагляду конкурсных спектакляў

| | |
|---|---|
| **9 красавіка**, СШ №2, 13-15 | **"Дудка-самагудка"** |
| **10 красавіка**, СШ №3, 14-00 | **"Нікаля і яго сябры"** |
| **11 красавіка**, СШ №7, 15-00 | **"Сказка пра Фядота Стральца ўдалога малайца"** |
| **12 красавіка**, СШ №9, 14-00 | **"Мікітаў лапаць"** |
| **15 красавіка**, СШ №11, 12-30 | **"Кацёл з каменьчыкамі"** |
| **15 красавіка**, СШ №11, 13-30 | **"Недаростак"** |
| **16 красавіка**, Цэнтр пазашкольнай работы, 14-00 | **"Лясны дэтэктыў"** |
| **17 красавіка**, САШМ, 12-00 | **"Ха-ха, ха-ха-ха, ха-ха-ха-ха, ха-ха"** |
| **17 красавіка**, САШМ, 13-00 | **"Чароўная скрыпка"** |
| **17 красавіка**, САШМ, 14-00 | **"Паўлінка"**. |

**Юрый КАРПІЦКІ.**

# Дзіцячай бальніцы патрэбны нямецкі кювез

**МАЛАДЗЕЧНА. Намеснік галоўнага ўрача маладзечанскай бальніцы (МГДБ) Уладзімір Світо ацэньвае стан матэрыяльнай базы бальніцы як не самы горшы.**

Але апошні раз новае абсталяванне набылі тры гады таму. Гэта інкубатар для выношвання неданошаных дзяцей – кювез.

— Хацелася б набыць яшчэ адзін кювез нямецкай вытворчасці выпуску канца 90-х гадоў з камп'ютэрным кіраваннем, але на гэта няма грошай. Віцебскія кювезы ламаюцца, падчас здараюцца памылкі ў вымярэннях. А для немаўляці гэта небяспечна, — адзначае У. Світо.




**Зіма 1954/55 гадоў. Будоўля будынка Маладзечанскай гарадской дзіцячай бальніцы яшчэ не завершаная. Ён быў узведзены ў 1955 годзе. Задуманы як дом для ветэранаў. Да 1974 года выконвала ролю абласной дзіцячай бальніцы. Цяпер гэта адзіная ў рэгіёне спецыялізаваная дзіцячая бальніца на 200 месцаў (МГДБ). Працуе 5 аддзяленняў: хірургічнае (60), кардыярэўматалагічнае (45), лор (25), інфекцыйнае (40), аддзяленне для нованароджаных (30). Плюс 6 рэанімацыйных ложкаў.**

Па медыцынскай класіфікацыі МГДБ належыць да ўстаноў 3-га класа. Гэта залежыць ад колькасці ложкаў. У бальніцы ёсць адпаведнае абсталяванне. Але ад 50 да 100 дзяцей у год маладзечанскія ўрачы накіроўваюць у сталічныя медыцынскія ўстановы больш высокага класа для лячэння, абследавання або дыягностыкі. Там ёсць патрэбнае абсталяванне.

У МГДБ працуе 25 урачоў. Уласнага рэнтгенолага і фізіятэрапеўта няма. Робіцца 400 аперацый у год. Самыя распаўсюджаныя звязаная з апендыцытам, грыжай, селязёнкай, адэноідамі. Выпадкаў са смяротным зыходам па бальніцы 0,2-0,3% у год. Асноўная прычына – прыроджаная паталогія.

Намеснік галоўнага ўрача Уладзімір Світо:

– Колькасць захворванняў расце, а нараджальнасць і ўзровень жыцця ідзе на спад. Што тычыцца платных паслуг, то яны ў педыятрыі не развіваюцца. Па законе гэта немагчыма. Было б значна лягчэй, каб бацькі дапамагалі ўрачам. Гэта ж дзеля іх дзіцяці.

Бальніца ганарыцца адзіным у рэгіёне дыягнастычным апаратам нямецкай вытворчасці для абследавання брушной поласці – лапараскопам.

**Ірына РАБУШКА.**

## Адкуль прыязджалі лячыцца ў дзіцячай гарадской бальніцы летась?



| | |
|---|---|
| Маладзечна | 3869 |
| Маладзечанскі раён | 1570 |
| Вілейскі раён | 338 |
| Мядзельскі раён | 41 |
| Валожынскі раён | 31 |
| Іншыя раёны | 122 |

■ ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ МАЛАДЗЕЧАНЦАЎ

## Што для вас значаць лічбы «03»?



**Алена Баркоўская, хатняя гаспадыня:**

— Гэта нумар "хуткай". Вось два гады таму выклікала, калі Рому нараджала. Памятаю 27 мая ў 2000 годзе. Безумоўна, ад "хуткай" людзі чакаюць дапамогі.



**Уладзімір Дземеш, навучэнец палітэхнікума:**

— "Хуткая дапамога". Адзін раз выклікаў, калі была высокая тэмпература. Дапамаглі. Але ж я "хуткай" не давяраю, таму што своечасова не прыязджаюць.



**Мікалай Хруль, інспектар пажарна-вартаўнічай аховы:**

— "Хуткая", і толькі. Але ж сам, дзякуй Богу, не звяртаўся. Я жыву ў раёне, 40 кіламетраў ад Маладзечна. "Хуткая дапамога" прыязджае сюды праз 40 хвілін, што тут скажаш.



**Вольга Крыскевіч, бухгалтар піўзавода:**

— Нічога не значыць. Мы з імі ніколі не сустракаліся. А калі сур'ёзна, гэта нумар "хуткай". Але ж яна рэальна дапамагчы не можа, толькі абязболіць і перавезці ў бальніцу.



**Юрый Рубацкі, работнік падатковай інспекцыі:**

— Ніякіх асацыяцый. Толькі хакей і валейбол. У мяне ўсё асацыюецца са спортам.

**Фотаапытанне падрыхтавалі Вольга ПІЛІПЕНКА і Юрый КАРПІЦКІ.**

■ НАША ПОШТА

## Хто ў адказнасці за медыцыну?

**З болем і трывогай пішу ў рэдакцыю. Вось ужо 2 дні, як мяне выпісалі з бальніцы — 1-га хірургічнага аддзялення тэрытарыяльнага медыцынскага аб'яднання Вілейскага раёна.**

Пакуль нічога не баліць і няма нагоды звяртацца да медыцыны, датуль не ведаеш, у якіх умовах працуюць нашыя медыкі. Хто раней падумаў бы, што медыцына будзе ў такім бядотным стане?

Калі неабходна зрабіць па накіраванні ўрача аперацыю, трэба звярнуцца да галоўнага ўрача за дазволам прымяніць наркоз. Бо наркоз у нас цяпер дэфіцыт. Ідучы на аперацыю, трэба мець пры сабе 5 пар пальчатак, 10 метраў марлі, 100 мл спірту і, вядома, разавыя шпрыцы. Ні капітальнага, ні бягучага рамонту ў бальніцы не праводзілася каля 10 гадоў. Таму у палатах (напрыклад, №419, №413 і г.д.) на падлозе лінолеум ляжыць кавалкамі, у любы момант можна спатыкнуцца і зваліцца. Аконныя рамы даўно патрабуюць рамонту, са столі абсыпаецца тынкоўка (палата №419, калідор, туалеты). Пасцельная бялізна, з-за яе нястачы, выкарыстоўваецца некалькі нарматыўных тэрмінаў.

Пра харчаванне няма чаго і гаварыць – цукру і масла (20 гр), належных хвораму, 23, 24, 25, 26 сакавіка зусім не выдаваліся. Хочацца крычаць: на чым трымаецца наша медыцына!?

Адказ можа быць толькі адзін — на патрыятызме тых людзей, якія ратуюць нас. Гэта людзі ў белых халатах, якія ходзяць з намі побач і якіх мы не заўважаем да таго часу, пакуль хвароба не прыйдзе да нас.

Кіруе 1-м хірургічным аддзяленнем цудоўны чалавек Артур Макараў. Гэта хірург вышэйшага класа. На яго рахунку сотні паспяховых аперацый, многіх ён выратаваў ад смерці. За мяжой такога чалавека цанілі б, зарплата і ўмовы працы былі б дастойныя. А ў нас – маленькая зарплата, ды і тая выдаецца з затрымкамі. Напрыклад, за люты медыкі павінны былі атрымаць зарплату 8-га сакавіка, але на 29-е яе яшчэ не атрымалі.

Вялікі дзякуй медыцынскім сёстрам, санітаркам, што яны шчыруюць за капейкі.

Многія чытачы скажуць, што такое становішча не толькі ў 1-м хірургічным аддзяленні, але і ў іншых таксама. Але ж павінен хтосьці з кіраўніцтва раёна, вобласці, рэспублікі (пералік кіраўніцтва вялікі) несці адказнасць за развіццё медыцыны, а значыць, і за здароўе нацыі.

**Раіса МАІСЕЕВА, Вілейка.**

## Здароўе ў руху

**7 красавіка 2002 года праводзіцца Сусветны дзень здароўя, дэвіз якога: "Здароўе – у руху".**

Сядзячы спосаб жыцця – адзін з асноўных фактараў рызыкі ішэмічнай хваробы сэрца, павышанага артэрыяльнага ціску, атлусцення, цукровага дыябету, астэапарозу і дэпрэсіі.

Таму мінімальная колькасць рухальнай актыўнасці, неабходная для захоўвання здароўя і прадухілення захворванняў, — 30 хвілін фізічнай нагрузкі кожны дзень.

**Алена ГЛАЎНІЦКАЯ, галоўны ўрач Маладзечанскага гарадскога цэнтра здароўя.**

# Тры праблемы «хуткай дапамогі»

**МАЛАДЗЕЧНА. У суботу карэспандэнты "РГ" шэсць гадзін аддзяжурылі з восьмай брыгадай "хуткай дапамогі".**

У складзе брыгады былі ўрач **Аляксандр Скрабін** і фельчар **Вікторыя Безялянская**.

### 8-40. Таццяна

Мы пайшлі павітацца з Вікторыяй, але спыніліся. Калі падышлі бліжэй, аказалася, што яна мерала ціск у жанчыны-бамжа, якая ляжала ў машыне "хуткай".

Жанчына, якая ляжала ў машыне, была ў прытомнасці. Назвалася Таццянай. Ціск быў 90 на 60. Стан яе ацанілі як транспартабельны і вырашылі ўладкаваць у раённую бальніцу. У машыне стаяў жудасны смурод.

Расказвае Вікторыя Безялянская:

– Выклік паступіў у 8-12. Выехалі праз дзве хвіліны. Таццяна ляжала ля чыгуначных пуцей. Яе падабрала міліцыя. Паглядзіце, якія ў яе жоўтыя вочы — гепатыт. Вельмі чырвоныя шчокі, як мы называем, "мітральны матылёк" — гэта з-за таго, што парушаная работа сэрца. Яна ўжо не жылец.

Паехалі ў раённую бальніцу. У размове ўзнялі першую праблему: што рабіць з бамжамі? Пасля кароткага агляду вырашылі пакінуць Таццяну ў бальніцы. Перанеслі яе ў будынак.

– Усё, забралі. Нават кроў з пальчыка бяруць, – задаволена сказаў А. Скрабін.

– А вы не жадаеце паглядзець? – паспрабавала падкалоць нас Вікторыя, – я, напрыклад, са сняданкам ўжо развіталася.

Машыну адправілі на дэзінфекцыю, мы пайшлі піць гарбату. У ардынатарскую зайшоў старшы ўрач змены **Аляксандр Бельскі**. Ён акрэсліў астатнія дзве праблемы, якія турбуюць работнікаў "хуткай". Першая – недахоп грошай на лекі і бензін. А другая – ходзяць чуткі, што хутка скароцяць некалькі брыгад. Зразумела, з-за таго, што не хапае бензіну на ўсе машыны.

– Як гэта будзе выглядаць? Не будзем выязджаць з машын. І так абедаем на хаду, а далей горш будзе. Можа быць такое, што паступіць тэрміновы выклік, а не будзе каму прыехаць: усе брыгады на выездах. Так будзе да першага трагічнага выпадку.

Радыё ажыло: "Восьмая, на выезд!"



Фота Юрыя КАРПІЦКАГА

**Фельчар "хуткай дапамогі" Вікторыя Безялянская.**

### 10-35. «Каларыт»

10-42. 47-гадовая жанчына скардзілася на сэрца.

– Нешта грудзі сціснула. Раней так было, але ж не так моцна.

– Вы абследаваліся? – спытаўся доктар.

– Не, самастойна лекі прымаю.

Аляксандр Скрабін падышоў да фельчара. – Што маем?

– Практычна нічога.

– Давайце кардыяграму зробім, а потым карвалолу накапаем.

– Кардыяграму зрабіць можна, а карвалолу няма, – "супакоіла" Вікторыя.

– Вось і дапамагай без лекаў, – уздыхнуў Аляксандр Скрабін.

Кардыяграма вялікіх адхіленняў не паказала, жанчыне стала лягчэй. Яна паабяцала прыйсці на прыём да ўрача.

### 10-59. Астматыкі

Едзем назад. Але выклікалі ў жылы дом па Вялікім Гасцінцы. Жанчына-астматык прасіла паратунку – яна задыхалася.

На парозе кватэры мы пачулі насычаны цыгарэтны пах.

– А, гэта зноў вы? Толькі ў чацвер сустракаліся, – пазнаў жанчыну А. Скрабін.

– Зноў сябе дрэнна адчуваю.

Ад уколу жанчыне стала крыху лягчэй.

Выпадак запушчаны, – сказаў доктар, калі мы выйшлі з кватэры. Жанчына лячыцца не хоча, на прыём не спяшаецца, і яшчэ муж курыць, хаця таксама астматык.

### 13-10. Бабулька

Паехалі з 4-й брыгадай. У склад яе ўвайшлі ўрач **Генадзь Касьян** і фельчар **Алена Кажура**.

Дрэнна было 79-гадовай жанчыне. Памералі ціск – 150 на 80. Вырашылі зрабіць укол.

– "Чацвертая" свабодная, – перадаў у дыспетчарскую вадзіцель, і мы паехалі.

"Васьмёрка" спяшалася ў Маркава да знаёмага астматыка. Але час нашага першага дзяжурства скончыўся.

**Вольга ПІЛІПЕНКА, Юрый КАРПІЦКІ.**

 



■ ТУРЫСЦКІЯ МАРШРУТЫ

# Алёхнавічы-Путнікі-Радашкавічы-Вязынка

**МАЛАДЗЕЧНА. Прапануваем вам двухдзённы пешаходны маршрут. Працягласць яго каля 18-20 кіламетраў.**

Найбольш зручна выехаць электрычкай на Мінск адпраўленнем у 8-32. У Алёхнавічы прыязджаем у 9 гадзін 20 хвілін. Вельмі цікавы сам алёхнавіцкі вакзал, пабудаваны з цэглы. Ад станцыі праходзім па мосце на вуліцу Зарэчную і праходзім 300 метраў уверх. Справа на гары добра відаць нядаўна пабудаваная царква. Затым зварочваем налева і падымаемся да Алёхнавіцкай СШ, мінаем сельскі савет і па сцяжынцы спускаемся ў лог. Тут цячэ маленькі ручаёк. Выходзім на бетонную дарогу Алёхнавічы-Радашкавічы. Злева ад дарогі застанецца Алёхнавіцкая птушкафабрыка. Праходзім крыху больш за 2 кіламетры і зварочваем налева, да вёскі Путнікі. Да яе 0,8 кіламетра (на паваротце стаіць знак). Вёска доўгая, вуліца брукаваная. У канцы вёскі зварочваем налева і праз 1 кіламетр заходзім у вёску Дзікшняны. У канцы вёскі за дрэвамі бачны і помнік экіпажу самалёта Мікалая Гастэлы на шашы Маладзечна-Мінск. Бензазапраўчная станцыя. Праз 400 метраў падыходзім да помніка. Тут мы былі а 12-й гадзіне. Ад помніка да цэнтра пасёлка яшчэ каля 2 кіламетраў. На начлег (калі загадзя дамовіцца) можна размясціцца ў Радашкавіцкай СШ. Дырэктар школы – **Анатоль Зыль** (тэл. 95066). Амаль за 300 метраў ад школы добра відаць былая дзяржаўная мяжа, што існавала да 1939 года паміж Савецкім Саюзам і Польшчай. У пасёлку мы пабывалі на экскурсіі ў аб'яднанні "Белмастацкераміка", у музеі школы-інтэрната.

На вуліцы Савецкай, перад будынкам аптэкі, знаходзіцца помнік беларускаму пісьменніку Ядвігіну Ш. (сапраўднае імя Антон Лявіцкі).

На другі дзень мы рухемся да помпавай станцыі. Адзаду застаецца мост праз раку Гуйку і канал. Тут, у маляўнічым куточку лесу, раім зрабіць вялікі абедзенны прывал. Адсюль берагам канала каля 8 кіламетраў да вёскі Вязынка. Без прывалаў на гэты шлях вы патраціце 2-2,5 гадзіны часу. Паход закончаны. Калі ёсць час, можна зайсці у Купалаўскі мемарыяльны запаведнік "Вязынка".




**Сяргей БЯЛКОЎ**, дырэктар Маладзечанскага турклуба "Пілігрым".

■ МІНІ-ФУТБОЛ

## Перамаглі ветэраны

МАЛАДЗЕЧНА. 30-31 сакавіка ў зале ЗМК завяшыўся традыцыйны турнір па міні-футболе памяці **Арнольда Бохана**. У суботу былі гульні ў паўфінальных групах. Па дзве лепшыя каманды выйшлі ў фінал.

Вынік фінальнага турніру:

1. Сябрына ...................... 9
2. ЗМК ............................. 6
3. Вілейка ........................ 3
4. Пуцеец-Фартуна .......... 0

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ ЭКСПЕРТЫЗА «РГ»

## На што прэтэндуе «Маладзечна-2000»?

Праз тыдзень пачынаецца чэмпіянат Беларусі ў вышэйшай лізе. Час падвесці вынікі перадсезоннай падрыхтоўкі.

Стартавы склад будзе выглядаць прыкладна так. Злева ў абароне нагульваецца Азаронак, справа – Бычкоўскі, апошнім – Сарасек, пярэднім – Кабельскі. У паўабароне злева – Тартоўскі, у цэнтры – Карпіленка і Міхалёў. Мігас можа гуляць як справа, так і ў цэнтры. Нападзенне – Макрыцкі, Сідарэнка, і Акуліч – калі перамовы аб яго пераходзе скончацца паспяхова.

На карысць маладзечанцаў тое, што яны другі год гуляюць разам. Безумоўна, гульцы сталі больш дасведчаныя. Добра, што з'явіўся спонсар. Насцярожвае тое, што прайгралі амаль усе спарынгі калегам па вышэйшай лізе. Таму стартавая гульня адкажа на пытанне, на што прэтэндуе "Маладзечна-2000". Спецыялісты называюць тры каманды-кандыдаты на вылет. Гэта "Зорка-ВА-БДУ", "Лакаматыў-96" і "Маладзечна-2000". 12 красавіка гульня з "Зоркай". Перамога – маладзечанская каманда нацэльваецца на "дзесятку", пройгрыш – змагаецца за выжыванне.

Пра перспектывы маладзечанскіх гульцоў паразважаем у асобным матэрыяле.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

■ ЛЁГКАЯ АТЛЕТЫКА

# Спартсменка-мадэль

**МАЛАДЗЕЧНА. Алена Куцкевіч паспяхова сумяшчае некалькі заняткаў. Зімой яна стала чэмпіёнкай краіны сярод юнакоў у бегу з перашкодамі на 1500 метраў. Акрамя гэтага, Алена вучыцца на "добра" і "выдатна" ў школе і займаецца ў мадэльным агенцтве. 29 сакавіка ўдзельнічала ў гарадскім конкурсе-паказе мадэляў адзення.**

Сумяшчаць пакуль атрымліваецца: маці сказала, што забароніць ёй хадзіць на трэніроўкі, калі будзе горш вучыцца. Алена бег любіць. Прыйшла ў спорт пасля таго, як выступіла за сваю школу на гарадскім кросе. Да гэтага спортам не цікавілася.

Першыя поспехі ўжо прыйшлі. Летась выступала на сусветным першынстве, дзе на дыстанцыі 6 кіламетраў была 115-я. Мяркуе, што выступіла б лепш, але за некалькі дзён да гэтага атрымала траўму ступні. Лічыць сябе сціплай, але гэта не замінае ставіць у спорце самыя высокія мэты. Гаворыць, што будзе крыўдна, калі не выйграе летні чэмпіянат краіны – колькі працы ўклала. Але пра жыццёвыя мары не сказала, бо не хоча загадваць наперад. Са школьных дысцыплін пераважае матэматыку, удзельнічала ў школьных алімпіядах. З дамашніх жывёл больш за іншых любіць сабак – за іх адданасць.



Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

**Алена Куцкевіч. Нарадзілася 19 сакавіка 1985 года ў Маладзечне. Вучаніца 10 класа СШ №3. Бегам займаецца з 1996 года. Першы трэнер – Іван Мацюшонак, з 2000 года займаецца з Леанідам Арцем'евым. Каронная дыстанцыя – бег на 1500 метраў з перашкодамі. Лепшыя дасягненні: 1-е месца на зімовым чэмпіянаце краіны-2002 сярод юнакоў і 3-е месца на зімовым чэмпіянаце-2001, 2-е месца на летнім чэмпіянаце-2001 у юнацкім ўзросце.**

Бліжэйшы старт у Алены – гарадскі крос 11 красавіка.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

■ ФУТБОЛ

## Галоўны трэнер «Маладзечна-2000» Людас Румбуціс: «Правядзем першы круг, а далей паглядзім»

**– Вы задаволены вынікам збору ў Брэсце?**

– Адносна задаволены. Мы ўпершыню за тры гады некуды выехалі, як след папрацавалі на грунце. Вымушаны былі за два тыдні зрабіць тую працу, на якую патрэбны паўтара месяцы. Але ж футбольныя трэніроўкі – гэта не бухгалтарскае справаводства, калі можна пасядзець некалькі начэй і навярстаць упушчанае. Вынікамі спарынгаў не надта задаволены, хаця дзеянні гульцоў у некаторых матчах мне спадабаліся.

**– Каго адзначыце з футбалістаў?**

– Парадавалі **Мігас**, **Макрыцкі**, праўда, яму яшчэ трэба шмат і шмат працаваць. Можна адзначыць **Млечку**, **Кабельскага**.

**– Якія будуць змены ў складзе? Што ў гульцоў з кантрактамі?**

– Па Кабельскаму пытанне адкрытае. Калі дамовімся з БАТЭ пра **Акуліча**, то не застанецца ў нас **Рапецкі**. З **Асадоўскім** кантракт прадоўжылі на гэты год. Амаль ва ўсіх хлопцаў тэрміны кантрактаў сёлета заканчваюцца.

**– І што будзе праз 7-8 месяцаў? Футбалісты змогуць бясплатна пакінуць каманду. А вашы асабістыя планы?**

– Не ведаю. Нічога не магу сказаць. Горад не можа падтрымліваць каманду на належным узроўні. У тым жа Брэсце за месяц атрымліваюць ад уладаў тое, што нам абяцана на цэлы год. Тыя хлопцы, што мне дапамагаюць, яны ж не альтруісты, не будуць выкідваць грошы ў паветра. Пагуляем першы круг, там будзе лепш відаць, як складзецца лёс каманды па заканчэнні гэтага сезона.

**– Задача на чэмпіянат?**

– 9-10 красавіка правядзем сход. Трэба быць прыземленымі, рэальна ацэньваць свае магчымасці. Думаю, задача-максімум – гэта шостае месца.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

## Табло

■ КАНТРОЛЬНЫЯ МАТЧЫ

**23.03 (Брэст) Маладзечна-2000 – Дынама (Брэст, дубль) 4:3 (2:1)**

Галы: Сідарэнка (15, 25, 53), Макрыцкі (50); (7), (82), (87)

**23.03 (Брэст) Маладзечна-2000 (дубль) – пасёлак Кавярдзякі 8:0**

Галы: Млечка – 3, Смірноў – 2, Антановіч, Лявончык, Муравейнікаў

**23.03 (СШ№5) Маладзечна-2000 (дубль, другі склад) – Забудова 2:0 (0:0)**

Галы: Харэцкі (80), Касцюк (88)

**24.03 (Стайкі) Смаргонь – Тарпеда (Жодзіна, дубль) 3:0 (1:0)**

Галы: Селіванаў (40), Шпакоўскі (48), Карабінскі (65)

**27.03 (Брэст) Маладзечна-2000 – Водаканал-СДЮШАР (Брэст, Д3) 1:1 (0:0)**

Галы: Мігас (80); (70)

**29.03 (Брэст) Маладзечна-2000 (дубль) – Дынама (Брэст) 1:2 (0:1)**

Галы: Акуліч (85); (37), (54)

**29.03 (СШ№5) Маладзечна-2000 (дубль, другі склад) – Забудова 2:1 (0:0)**

Галы: Грыхуцік (50), Відрук (60); Чабрыцкі (72)

**30.03 (Брэст) Маладзечна-2000 – Бяроза-Керамік (Бяроза, Д2) 2:2 (1:1)**

Галы: Макрыцкі (20, 70); (10), (85)

**31.03 (Стайкі) Смаргонь – Тарпеда-МАЗ (дубль) 0:1 (0:0)**

Гол: (85)

■ МАЛАДЗЕЧНА-2000

Будуць перамовы з БАТЭ аб арэндзе **Дзмітрыя Акуліча** (1974), які летась таксама на правах арэнды выступаў за "Дарыду" (Д2). Гэты футбаліст шмат пагуляў за маладзечанскую каманду ў сярэдзіне 90-х, правёў у яе складзе ў вышэйшай лізе 105 матчаў (7-ы паказчык у гісторыі клуба) і забіў 14 галоў (3-і паказчык), што значна лепш за статыстыку цяперашняга лідэра **Віталя Міхалёва** (54 матчы і 6 галоў).

Не вырашана дагэтуль, ці застанецца ў складзе **Дзмітрый Кабельскі**.

У клуба з'явіўся генеральны спонсар – кампанія "Рэмі-Аўта", прадстаўнік буйнога нямецкага аўтамабільнага канцэрна БМВ. У прыватнасці, новы спонсар цалкам экіпіраваў каманду на бліжэйшыя два гады. Новая форма вытрыманая ў сінебакітна-белых колерах. Памянялася і сімволіка клуба.

■ ПЛАВАННЕ

Маладзечанка **Анастасія Лях** адправілася на чэмпіянат свету ("кароткая вада" – даўжыня басейна 25 метраў) ў Маскву. Выступіць там ва ўсіх брасавых дысцыплінах, а таксама ў складзе камбініраванай эстафеты.

Тым часам на адкрытым чэмпіянаце Украіны ў Харкаве другі вынік на дыстанцыі 100 метраў брасам паказаў маладзечанец **Віталь Барташэвіч**.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ ФУТБОЛ НА ЧЫГУНЦЫ

У Барысаве ў міні-футболе спаборнічалі шэсць каманд Мінскага аддзялення Беларускай чыгункі. Гаспадары першынстваў, а маладзечанцы (кіраўнік **Міхаіл Южык**) сталі другімі. Гэта адметнае дасягненне, бо ў мінулыя гады вышэй трэцяга радка не падымаліся.

■ ДЗІЦЯЧЫ ФУТБОЛ

У Маладзечне паралельна з судзейскім семінарам (дарэчы, **Ігар Крук** атрымаў права судзіць першую лігу ў полі, а **Сяргей Ляшчынскі** – на лініі) праходзіў турнір чатырох каманд хлопчыкаў 1987 года нараджэння.

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. | ДЮСШ (Ліда) | ## | 4:3 | 2:0 | 10:2 | 9 |
| 2. | ДЮСШ (Маладзечна) | 3:4 | ## | 2:0 | 8:1 | 6 |
| 3. | ДЮСШ (Смаргонь) | 0:2 | 0:2 | ## | 8:0 | 3 |
| 4. | ДЮСШ (Магіл. р-н) | 2:10 | 1:8 | 0:8 | ## | 0 |

Лепшыя па амплуа: варатар **Сяргей Плюта** (Смаргонь), абаронца **Раман Вінцукоўскі** (Маладзечна), паўабаронца **Станіслаў Баламут** (Маладзечна), нападаючы **Аляксандр Татарнікаў** (Ліда). Лепшы бамбардзір **Міхаіл Лужынскі** (Маладзечна) – 4 галы.

Трэніруюць каманды нашых землякоў маладзечанец **Валерый Вятроў** і смаргонец **Віктар Страшынскі**.

■ СМАРГОНСКАЯ СДЮШАР

41-гадовы трэнер па цяжкай атлетыцы **Станіслаў Красоўскі** выдатна выступіў на чэмпіянаце краіны сярод ветэранаў. Быў першы ў катэгорыі да 90 кілаграмаў і другі ў абсалютнай вагавай катэгорыі. У маі збіраецца паехаць на чэмпіянат Еўропы.

Выхаванцы 1985-86-га гадоў нараджэння трэнераў **Аляксандра Вахавяка**, **Уладзіміра Грышкевіча**, **Канстанціна Кушнера** добра выступілі на турнірах па самба ў Гродне і па дзюдо ў Баранавічах. Першымі сталі ў самба **Аляксандр Марудаў** (да 56 кг) і **Андрэй Кіпцэвіч** (да 73 кг), у дзюдо **Ліда Андронава** (да 48 кг). Другое месца ў дзюдо ў Андрэя Кіпцэвіча. Трэція месцы ў самба ў **Руслана Грышкевіча** (да 48 кг) і **Юрыя Шайко** (да 60 кг), у дзюдо ў **Кацярыны Радзевіч** (да 52 кг).

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

**На гэтым тыдні гуляюць**

**11.04, дублі, Зорка-ВА-БДУ (Мінск) – Маладзечна-2000**
**12.04, 17-30, гарадскі стадыён Маладзечна-2000 – Зорка-ВА-БДУ (Мінск)**

У 2000 годзе ў першай лізе на выездзе 1:0 (Бычкоўскі), дома 4:0 (Тартоўскі –2, Міхалёў, Вострыкаў)

 

